Przesyłka opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 25 гр.

№ 4 Вільня, 20 Кастрычніка 1931 г. Год I

# ГОЛАС ПРАЎДЫ

ПАЛІТЫЧНАЯ, ГРАМАДЗКАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ. Выходзіць 2 разы ў месяц.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ: ВІЛЬНЯ, Бэліны 40—4. (Wilno, ul. Beliny 40 m. 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 1 г. дня.

„ГОЛАС ПРАЎДЫ“ каштуе на год—6 зл. на паўгода 4 зал. на 3 мес.—1 зл. 50 гр, на 1 месяц—50 гр.

## КАМУНІЗУЮЧЫЯ.

Есьць на сьвеце людзі, якія імкнуцца да таго, каб захапіўшы ў свае рукі ўладу, перавярнуць усё дагары нагамі.

„Хто быў нічым—той абавязкава мусіць зрабіцца ўсім“—прынамсі так абяцаюць камуністы тым прастачком, якія ім верацъ.

Трэба сказаць праўду: новыя „прарокі“ маюць свой сымвал веры, пакланяюцца сваім багам—Марксу, Леніну і яшчэ якому небудзь сэзановаму—(прыкладам як цяпер у Саветах Сталіну) і фанатычна пераканаиы ў сваёй непаграшымасьці.

Для нас тыя людзі, якія спэцыяльна арганізаваліся для таго каб сілаю загнаць увесь народ ў камуністычны рай, якія змушаюць „ерэтікоў“ маліцца сваім багам, якія падобна анёлам-старажом хочуць намі апякавацца - зьяўляюцца зусім зразумелымі ў сваіх ганаровых імкненьнях. Гэтыя людзі добра знаюць, як свае канчальныя мэты, так і тое, што яны робяць цяпер.

Але ёсьць на сьвеце яшчэ адна чарада людзей, якая будучы ня здольнай мець свае ўласныя перакананьні—падпадае пад уплывы камуністаў і ператвараецца ў іх сьляпое снарадзьдзе,—у тое „балота“, з каторага вытвараецца сучасны тып „камунізуючага“, які так часта спатыкаецца ў нашым грамадзкім жыцьці.

Сярод камунізуючых рэдка можна спаткаць чудака-ідэаліста,-пераважна туды зашываюцца такія ягамосьці, каторыя прывыклі расцэньваць усе маральныя і палітычныя вартасьці на цьвёрдую валюту.

Будучы на палажэньні парабкаў камуністычнае партыі, яны ў сваёй „грамадзкай“ працы імкнуцца да ўсялякай афёры, якая можа прынесьці ім беспасярэднія матэрыяльныя карысьці.

Яны здольныя на ўсё, нават на пэўны гэраізм і самаахвярнасьць, але пад адным варункам—каб усё гэта аплачвалася і прыносіла матэрыяльныя карысьці.

Вось гэтакім зьяўляецца ідэолёгічны грунт камунізуючых, на якіх апіраецца ў нас камуністычная партыя. Бяз гэтых прадажных тыпаў, якія жыруюць у нашым грамадзкім жыцьці, надзяваючы на сябе розныя тогі, глядзючы на акалічнасьць, камуністычная партыя мела-б сярод народу вельмі малыя ўплывы. Праз камунізуючых прасачваецца ў наш народ камуністычная ідэолёгія, якая аднак ня выступае адразу ў сваём уласным выглядзе.

Асьцярожна і ўмела праводзіцца раней г. зв. радыкалізацыя настрояў, сутнасьць якой палягае на тым, каб як мага балей абаламуціць цёмныя масы, выкарыстоўваючы ўсе няўзгоды сучаснага жыцьця. Калі гэта зроблена, калі вада ўзмучана, і калі цёмны чалавек гатоў лезьці на ражон, шукаючы прычыны сваяго ліхога жыцьця—тады з-за кустоў вылазяць камуністычныя рыбаловы, якія і пачынаюць лавіць рыбу. Тактыка камуністаў палягае на тым, каб сыстэматычна выкарыстоўваць усялякае незадаваленьня масаў, штучна яго падтрымоўваюць і нават імкнуцца да аго, каб палажэньне працоўных нагоршвалася, бо толькі тады найвыгадней вылазіць з падпольля камуністычным прарокам і паказваць зьбітым з панталыку масам дарогу ў камуністычны рай. У гэтай правакатарскай працы зноў-жа найлепшымі памоцнікамі зьяўляюцца камунізуючыя, ад якіх аж кіпыць у кожным серадовішчы, асабліва ў нашым, палітычна невырабленым беларускім грамадзянстве. Сумныя часы перажывае нашае пакаленьне. Нават нашая моладзь, якая ўзгадавалася пад уплывамі камунізуючых махераў і афэрыстаў, так апутана бальшавіцкаю павуціною, так слаба разьбіраецца ў грамадзкіх і і палітычных пытаньнях, што ў большасьці выпадкаў, магчыма нясьведама—ідзе на паводку за камунізуючымі правадырамі і „прахадзімцамі“, якія тымчасам за кожную душу, злоўленую ў хітра растаўленую сетку,—атрымоўваюць запраўды Іўдавы чырвонцы і даляры.

Трэба прызнацца, што сярод нашага грамадзянства ёсьць і такая частка людзей, якая маючы засьлепленыя вочы—верыць у тое, што савецкі камуністычны ўрад мае запраўдны намер памагчы ў такой балючай справе, як нацыянальнае адраджэньне Бел. народу. Колькасьць гэтых бязгрунтоўных фантазёраў, аднак пастаянна зьменшваецца ў меру таго, як савецкая ўлада на Беларусі і Украіне рэалізуе ў прысьпешаным тэмпе сваю праграму, заганяючы ў вастрогі прадстаўнікоў нацыянальна — адраджэнскай думкі.

У меру адыходу ад камуністаў лепшай ідэёвай часткі грамадзянства—астаюцца з імі толькі завадовыя камунізуючыя—афэрысты, якія гатовы праводзіць усялякія камуністычныя дырэктывы пад адным толькі варункам, аб якім намі ўспаміналася.

З кожным днём нашае грамадзянства набывае ўсё большую палітычную сьведамасьць і з кожным днём уплывы камуністаў павінны зьмяншацца.

Напасьледак прыдзе і такая гадзіна калі камунізуючым, таксама як і запраўдным камуністам,—не застанецца мейсца ў аздароўленым беларускім грамадзкім жыцьці. Яны будуць выкінены адусюль, дзе толькі заселі ў мэтах сваей шкоднай працы. У адносінах да гэтага элемэнту ня можа быць ніякага лібэралізму, ніякай паблажлівасьці таксама, як яны ня маюць гэтай паблажлівасьці да нас у сваёй камуністычнай бацькаўшчыне.

## Чаму камуністычная ўлада ў Саветх павінна пасьці?

Калі толькі камуністы запанавалі ў колішняй Расеі, то многім здавалася, што яны запраўды палепшаць лёс працоўных. Цёмным і несьвядомым масам вельмі падабаўся падзел панскае зямлі і рабунак чужой маемасьці, бяссэнсоўныя забойствы „буржуяў“ і г. п. рэчы, якімі камуністы пацяшалі народ, дарваўшыся да ўлады, якая так лёгка далася ім у рукі, дзякуючы дурнаце і неаргарізованасьці расейскага грамадзянства.

Хутка ўсе пераканаліся, што запраўдны рай на нашай грэшнай зямлі ўвесьці вельмі цяжка.

Шмат трэба працаваць над тым, каб хоць пакрысе палажэньне працоўных палепшывалася.

Асабліва моцнае разачараваньне запанавала сярод сялянства, якое камуністы прынесьлі ў ахвяру сацыялістычнаму будаўніцтву і з якім прабляюцца цяпер нячуваныя проста рэчы, зрэшта дось вядомыя і ў нас.

У выніку таго прыгоннага ладу, які заводзяць камуністы па вёсках — усюды наглядаецца страшэннае незадаваленьне сялянскіх масаў, якія ня могуць дачакацца тае мінуты, калі нехта прыдзе ім на ратунак. Кім будзе гэты „нехта“ — для іх ўсё роўна—толькі-б хутчэй вынясьліся камуністы, даўшыяся ў знакі на столькі, што больш цярпець іх панаваньне стала немагчымым. Трудна дапусьціць, каб пры такіх настроях аснаўной масы савецкага грамадзянства, з якога складаецца амаль на 80 прац. савецкая армія—камуністычная ўлада нешта выйграла пад час зусім магчымых міжнародных канфліктаў, ад якіх Саветам не заўсёды ўдасцца выкруціцца. Камуністычная ўлада зрабіла за апошнія гады непапраўную цяпер памылку сваею недарэчнаю аграрна-эканамічнаю палітыкаю, паставіла проці сябе амаль усю масу працоўнага сялянства і цяпер толькі патрабуецца выпадак, каб гэтая неасьвечаная і азлобленаа маса накінулася на сваіх лютых ворагаў і падняла іх „на штыкі“.

Тая акалічнасьць, што камуністычная ўлада трымаецца ў Саветах ужо 13 гадоў — сьведчыць толькі пра тое, што наагул усякая ўлада, маючая адпаведна арганізованую сілу — можа ўтрымац даволі доўга. Але гэта ўсё толькі, як кажуць „да пары—да часу“.

Камуністычны ўрад вядзе цяпер каранную ломку ўсяго эканамічнага ладу, якая вытварыла запраўдны хаос і якая зусім аслабіла эканамічную сілу дзяржавы.

Усякая такая ломка, каб яна вялася і па добра прадуманым плянам, у працягу многіх гадоў вельмі цяжка адбіваецца ва ўсім краі.

У Саветах, як ведама, яна перажываецца асабліва балюча. Калі грамадзянства ня мае чаго есьці, дык ўжо адна гэтая акалічнасьць служыць нам лепшым доказам таго, што запраўды там робіцца. І вось у такую, цяжкую для Саветаў, хвіліну—могуць зусім неспадзявана наступіць такія падзеі, у якія яны будуць уцягнены сілаю фактаў, нават каб таго і не хацелі—і вось тут якраз наступіць тое, чаго так баяўся Ленін.

Гэты апошні праз увесь час аж да самай сьмерці непакоіўся, што „сусьветная рэвалюцыя крыху позьніцца“.

Яна запраўды спазьнілася і мы пэўны, што яе ня будзе, ня гледзючы на ўвесь той „гармідар“, які падымае Камінтэрн па ўсім сьвеце.

Мы заўважаем, што разбурваючая акцыя Камінтэрну прычыняецца толькі да таго, што Эўро-

пэйскае грамадзянства становіцца больш адпорным на гэтую акцыю і шчыльней стуляе свае шарэнгі, каб будучыя падзеі не засталі яго ў такім расьцярушаным стане, у якім аказалася нясчаснае расейскае грамадзянства ў 17 годзе.

Вось чаму камуністычны „Алімп“ ня гледзячы на міравы крызіс з трывогаю глядзіць на будучыню, хаця і стараецца „nadrabiać minę“, крычучы на ўвесь сьвет пра зблізкаючы „міравы пажар“.

Запраўды-ж, калі ўважна прыглядзецца да ўсяго таго, што творыцца ў Саветах, то ня можа быць сумліву ў тым, што набліжаецца канец дыктатуры кампартыі, паказаўшай усяму сьвету да чаго яна здольна.

## Крывавая ахвяра камуністычных катаў. Праф. Ігнатоўскі не пакончыў самагубствам, а быў застрэляны па загаду Менскай „чрэзвычайкі“

На пачатку гэтага году ўсё беларускае грамадзянства бяз розьніцы палітычных кірункаў было абурана тымі весткамі, якія надыйшлі да нас з Савецкай Беларусі. Грамадзянства дакладна даведалася, што Савецкая ўлада ўкінула ў вастрожныя лёхі ўсіх выдатнейшых прадстаўнікоў беларускай нацыянальна-адраджэнскай думкі: рэктара Бел. Унівэрсытэту прафэсара Пічэта, акадэміка Язэпа Лёсіка, акадэміка Некрашэвіча, Ластаўскага, старшыню Акадэміі Навук праф. Ігнатоўска і шмат іншых беларускіх дзеячоў. Хутка пасьля гэтага надыйшла і другая жудасная вестка пра самагубства праф. Ігнатоўскага, пры гэтым перадавалася, што абставіны сьмерці пр. Ігнатоўскага яшчэ **няведамы.**

Вось-жа цяпер, мы дакладна даведаліся пра іх ад тых людзей, якія ўцяклі з Савецкага пекла і якія сядзелі ў лёхах Менскага Г. П. У. у той час як памёр Ігнатоўскіі. Аказваецца, што па пастанове Менскага Г. П. У. (Чэрэзвычайкі) ён быў застрэляны чэкістам Моўшаю Кагановічам (псэўданім Каган). Вось дзе запраўдная прычына сьмерці Ігнатоўскага!

Камуністычным катам гэты чалавек з многіх прычын выдаваўся небясьпечным і яны забралі яго „са сцэны“ у гэтакі скрытабойчы спосаб, распаўсюджываючы вестку пра „самагубства“.

Ужо тады многім гэтае „самагубства“ выдавалася падазроным, але дзякуючы камуністычным агітатарам, ад якіх усюды аж кішыць, беларускае грамадзянства паверыла гэтакай пагудні і заспакоілася. Цяпер, даведаўшыся пра гэтакі жудасны факт, яно павінна, шчыльна самкнуўшы свае рады, моцна, на ўвесь сьвет, запратэставаць проці крывага тэрору, проці ўсяго таго, да чаго здольна камуністычная „культура“.

Гэтая крывавая ахвяра няхай прычыніцца да ацьвярэзеньня тое часткі нашага грамадзянства, якая яшчэ пакладае нейкія надзеі на Камуністычны Усход. Няхай кожны ведае якія краскі растуць на грунце камуністычнай „культуры“

Няхай ведаюць усе да якой подласьці і азьвярэньня дайшлі тыя людзі, якія запанавалі на нашых усходніх землях і якія хацелі-б накінуць нам сваю ўладу і тут. Толькі той, хто прадаўся за грошы—можа памагаць ім у іх каінавай працы і хваліць тыя парадкі, якія яны завялі ў сваёй камуністычнай бацькаўшчыне.

**Ганьба камуністычным катам!**

Ганьба крывавым акупантам нашай Бацькаўшчыны! Ганьба ўсім тым камунізуючым, якія іх падтрымоўваюць і гэтым самым памагаюць душыць Беларускі народ! Пратэстуйма проці крывавага тэрору, проці зьдзеку, проці ўсіх насільстваў, якія твораць **камуністы на Беларускіх землях!**

## З савецкага жыцьця

### Сялянскі сабатаж — ня хочуць працаваць на камуну.

Гаспадарчае жыцьцё савецкай вёскі запраўды зайшло ў тупік, з якога няма ніякога выхаду.

Сялянства выразна ня мае ахвоты працаваць у прыгонных абставінах. Прымусовая каллектывізацыя вёскі правальваецца, аб чым можна даведацца нават з савецкіх газэтаў, калі ўважна іх праглядаць.

Кожная гаспадарчая кампанія — ці то ворка, ці ўборка ўраджаю, ці то нейкая іншая тэрміновая праца,—каб яе давесьці да некага памыснага канца вымагаюць вялікага напружаньня ўсіх партыйных і дзяржаўных сілаў.

Падчас кожнай такой „кампаніі“ выдаюцца спэцыяльныя „маніфэсты“ да савецкай грамадзкасьці, дзе гэтая апошняя заклікаецца да працы.

Усё гэта сьведчыць пра тое, што справы ў Саветах на самым галоўным гаспадарчым фронце—аграрным—стаяць вельмі дрэнна.

Вось і цяпер Саветы стаяць перад новаю труднасьцю: аказалася, што значная частка бульбы мусіць зазімаваць на полі.

У зьвязку з гэтаю пагрозаю 8 кастрычніка г. г. Ц. Камітэт Кам. Партыі разам з Саветам Народных Камісараў Б.С.С.Р. і Цэнтраляю Прафсаюзаў выдалі супольны „маніфэст“ у справе... ўборкі бульбы:

„Прызнаючы тэмпы ўборкі бульбы з у с і м н е з а д а в а л ь н я ю ч ы м і“ чытаем у гэтым „маніфэсце“: „Ц. К. пастанавіў з 8 па 11 кастрычніка арганізаваць усебеларускі трохдзённік капаньня і адгрузкі бульбы.

Правядзеце масавую працу на калгасах, вёсках, мястэчках і гарадох па агульным выхадзе працоўных на капаньне, вывазку, адгрузку...

Камандзіруйце ўвесь партыйны, савецкі, камсамольскі і прафсаюзны актыў у сельсаветы, калгасы, саўгасы і паселішчы на арганізацыю трохдзённіка. Уборку бульбы ў калгасах, у саўгасах правядзеце в ы к л ю ч н а н а з ь д з е л ь ш ч ы н у (!)...

Лічэце баявой задачай сканчэньне ўборкі і адгрузкі бульбы ў вызначаныя тэрміны.

Сэкратар ЦККП(б)Б Ш а р а н г о в і ч.

Старшыня СНКБССР Г а л а д з е д.

Старшыня ЦСПСБ Р ы ж а ў.

Німа нічога дзіўнага ў тым, што Галадзед са сваею кумпаніяй занепакоіліся: у шмат якіх мясцох да ўборкі бульбы савецкія камунары яшчэ ня прыступалі.

Паводлуг дадзеным апэратыўнай зводкі НКЗБ аб ходзе ўборкі бульбы — да 5 кастрычніка па ўсіх раёнах БССР плян выканаы толькі на 27,8 прац. Паасобныя раёны выявілі вельмі характэрныя тэмпы выкананьня.

Напр. Койданаўскі раён выканаў толькі 6,4 прац. заданьня. Буда-Кашалёўскі—6,5 прац., Каморынскі 5,3 прац., Чырвона-Слабадзкі 1,6 прац. і г. д.

Як відаць з усяго, — у гэтым годзе бульбу будуць есьці толькі камуністы, рэшце-ж грамадзянства бадай ці яе прыдзецца пакаштаваць.

### Проціўкамуністычнае паўстаньне на Каўказе.

Прэсавае Грузінскае бюро павядамляе, што на Каўказе выбухла проціўбальшавіцкае паўстаньне. Паводле тых-жа самых вестак, гэнае паўстаньнадта шпарка і памысна разьвіваецца. Насельніцтва Азэрбэйджану і Армэніі ў шмат мясцох выганяе бальшавікоў. Шмат камуністычных аддзелаў з аружжам у руках пераходзяць на старану паўстанцаў, у якіх уладаньню ёсьць ужо вялікая частка Азэрбэйджану.

Пэўная колькасьць высшых камуністычных ахвіцэраў і кіраўнікоў у Армэніі і Азэрбэйджане ёсьць арыштаваная і трымаецца ў крэпасьці Мэтэкі.

Спробы перагавораў паміж бальшавікамі і паўстанцамі хутка былі сарваны. Дык барацьба ідзе далей.

## САВЕЦКАЯ КООПЭРАЦЫЯ

Асабліва характэрным і навучальным прыкладам адсутнасьці ў камуністычнай улады якой-небудзь цьвёрдай пазытыўнай праграмы зьяўляюцца яе адносіны да коопэрацыі.

З першых-жа дзён існаваньня савецкае ўлады расейскай коопэрацыі быў абвешчаны крыжовы паход, які закончыўся поўнаю перамогаю камуністаў. Коопэрацыя, як уцелаісьненьне „скрытнай і яўнай контр-рэвалюцыі“ была з корнем вырвана з расейскага грунту і на яе мейсцы вырас дзік быльнік.

Каб ня быць беспадстаўнымі прывядзём некаторыя цыфровыя дадзеныя, запазычаныя намі з сучасных савецкіх крыніцаў.

Гэтак на 1 студзеня 1913 года ў цяперашніх граніцах СССР. існавала 9,409 крэдытовых і пазычка-ашчаднасьцёвых таварыстваў, аб'еднываўшых 5,617 тысячаў сяброў.

Уласныя капіталы гэтых таварыстваў складалі ў той час 37,305 тысячаў руб. і 60 кап., уклады 149.313 тыс. руб. 40 кап., а пазычковы капітал 22.900 тыс, руб. (М. Лурье. Основы сельской кредітной коопэраціі. Ізд. 1928 г.)

Асабліва спрыяючым у палітычных стасунках мамэнтам для росту коопэрацыі была эпоха Часовага Ураду. Пры ім пад канец 1917 г. налічвалася каля 15,000 крэдытовых коопэратываў, аб'еднываўшых да 10 мільёнаў сябраў.

Прыпатрэбілася вельмі мала часу на тое, каб зьліквідаваць коопэратыўны спадак, які ў свой час ў працягу многіх гадоў з такім трудам стварыўся.

27 студня 1920 г. Савецкаю ўладаю быў выдадзены слынны дэкрэт аб ліквідацыі крэдытовай коопэрацыі і злучэньне крэдытовых таварыстваў з „спажывецкімі камунамі“.

Фактычна поўнае зруйнаваньне сельска-гаспадарчае крэдытовае коопэрацыі было зроблена мяйсцовымі ўладамі да выданьня гэтага дэкрэту бачыўшымі ў творчай працы коопэрацыі свайго ворага. Цяпер ад гэтае акалічнасьці не адмаўляюцца і савецкія аўтары, прызнаючы, як напр. гэта робіць М. Лурье, што выданьне слыннага дэкрэту „толькі ўзаконіла існуючы стан рэчаў, так як да гэтага часу аставалася ўва ўсім Саюзе толькі некалькі сотак крэдытовых коопэратываў, уд а датак існуючых толькі на паперы, а іншы раз і па занятаму памешканьню“ (стар. 47).

У эпоху, калі ўсё маючае якую-небудзь вартасьць падпала пад усеагульны рабунак і кампаддзел — соцыяльна-творчай ініцыятыве кампартыі і кіруемым ёю масам было не да коопэрацыі тым больш, што нават пасьля разгрому і вайсковых спусташэньняў нешта асталася, на чым магла скупіцца ўвага рэвалюцыйных масаў.

Пасьля кожнае пагулянкі настае, як ведама,— пахмельле і вось як раз у той час, калі настала гэтае пахмельле—успомнілі аб коопэрацыі.

Пад уплывам прыкрасьцяў, зьвязаных з пахмельлем, зьявіўся, як ужо гаварылася намі „нэп“, а разам з ім пачалі будаваць коопэрацыю, прапеўшы ёй папярэдня пахвальны гымн.

Ізноў такі першым, хто „ўспомніў аб коопэрацыі ў той час, калі ўсё разvальвалася, калі дэзорганізацыя гаспадарчага жыцьця дакацілася да скрайніх рубяжоў—быў Ленін.

Ён першы „ўвераваў“ у тую самую коопэрацыю, якою ён падобна іншым камуністам, калісь пагарджаў „ненавідзеў, гнібіў“ лічыў зьявішчам, не заслугоўваючым ніякое ўвагі.

Ленін заўважыў, што на камунізьме падзелу да соцыялізму не даедзеш, як не даедзеш да яго і пры дапамозе тых камунаў, якія развальваліся раней, чым пасьпелі сабраць першы ўраджай.

Бяручы пад увагу варункі дыктатуры і той цэнтралізм, які пануе ў краіне Саветаў. Ленін прызнаў, што гэта ўсё „што трэба для таго, каб з коопэрацыі, з адзінае толькі коопэрацыі, якую мы раней гнібілі, як махлярскую і якую з вядомага боку таксама маем права гнібіць цяпер пры Нэпе, ці-ж гэта ня ўсё патрэбнае для пабудаваньня поўнага соцыялістычнага грамадзтва?!!“ (Полное собраніе сочіненій Н. Леніна т. 8, ч. II. Стар. 139—-140).

У другім мейсцы гаворыць так: „У нас, запраўды, раз дзяржаўная ўлада ў руках рабочае клясы, раз гэтай дзяржаўнай уладзе належаць усе сродкі вытвару, у нас, запраўды, асталася заданьнем толькі коопэрыраваньне насельніцтва. Пры варунку нармальнага коопэрываньня насельніцтва само сабою дасягне мэты... соцыялізм. (глядзі т. 8 ч. II стар. 139).

„А лад цывілізаваных коопэратараў пры грамадзкай уласьці на сродкі вытвару“, захапляўся яшчэ ў адным мейсцы Ленін, „пры клясавай перамозе пралетарыяту над буржуазіей—гэта ёсьць лад соцыялізму“ (Стар. 142).

Як бачым з гэтых салодкіх слоў Леніна, дзьверы коопэратыўнага раю перад ім ня былі-б зачынены.

